# ◇ Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі

## СВЕТ

### ВІЗІТ НАДЗЕІ

Па ўзаемнай дагаворанасці паміж СССР і ЗША прэзідэнт Р. Ніксан з жонкай знаходзіўся з афіцыйным візітам у Савецкім Саюзе з 22 па 30 мая г.г.

Абмеркаванне ахоплівала шырокае кола пытанняў, якія маюць узаемную цікавасць, і было шчырым і грунтоўным, гаворыцца ў апублікаваным сумесным камюніке. Гаворыцца тут, што бакі ўдзялілі першарадную ўвагу праблеме змяншэння небяспекі ўзнікнення ядзернай вайны. Яны лічаць, што вялікім і рэальным укладам у гэту справу будзе стрымліванне гонкі стратэгічных узбраенняў.

Бакі дагаварыліся аб мерах, накіраваных на стварэнне больш спрыяльных умоў для развіцця гандлёвых і іншых эканамічных сувязей паміж СССР і ЗША. Лічачы, што гэтым мэтам адпавядала б заключэнне гандлёвага пагаднення паміж Савецкім Саюзам і Злучанымі Штатамі, бакі вырашылі ў бліжэйшы час завяршыць неабходную работу па заключэнню такога пагаднення. Бакі вырашылі стварыць сумесную савецка-амерыканскую камісію па пытаннях гандлю.

Падкрэслена важнасць далейшага супрацоўніцтва паміж дагаварваючыміся бакамі ў мірным даследаванні космасу. З мэтай павышэння бяспекі палётаў чалавека ў космас і забеспячэння навуковых эксперыментаў бакі дагаварыліся аб правядзенні работ па стварэнню сродкаў, якія даюць магчымасць ажыццяўляць стыкоўку савецкіх і амерыканскіх касмічных караблёў і станцый. Першы сумесны эксперымент па стыкоўцы пілатуемых караблёў з узаемным пераходам касманаўтаў намечана правесці ў 1975 годзе.

У камюніке гаворыцца аб супрацоўніцтве ў шэрагу іншых галін жыцця.

Што датычыцца міжнародных праблем, дык у камюніке гаворыцца, што шматбаковыя кансультацыі ў плане падрыхтоўкі нарады па пытаннях бяспекі і супрацоўніцтва ў Еўропе маглі б пачацца пасля падпісання заключнага чатырохбаковага пратакола пагаднення ад 3 верасня 1971 года.

### ПАГЛЫНУЎ

Галандскі электратэхнічны канцэрн «Філіпс» паглынуў адну з буйнейшых італьянскіх кампаній «Іньіс», якая выраблала халадзільнікі, пральныя машыны і іншыя электронныя прыборы.

### ГАСЦІЛІ

**З 17 па 24 мая г.г. у ГДР і яе сталіцы пабывалі 626 тысяч жыхароў Заходняга Берліна.**

### ЦАНА ЖОЎТАГА МЕТАЛА

Пры закрыцці лонданскага залатога рынку ў аўторак (30.V. г.г.) быў зафіксаваны новы рэкордны ўзровень цэн на жоўты метал — 59,75 долара за ўнцыю золата замест 38 долараў па афіцыйнаму курсу. (ак)

## БССР

### РАЗБУДОВА ГОРАДА МІНСКА

Цэнтральны Камітэт КП Беларусі разгледзеў пытанне аб сур'ёзных недахопах у праектаванні і забудове прыгарадных кварталаў сталіцы БССР. Пастанова ЦК Кампартыі Беларусі адзначае, што асноўнай прычынай дапушчаных сур'ёзных пралікаў і памылак у забудове другога гарадскога дыяметра з'яўляецца грубае парушэнне ўказанняў генеральнага плана горада Мінска аб комплекснай перабудове Цэнтральнага раёна, асноўных магістралей і плошчаў горада на аснове зацверджаных праектаў планіроўкі і забудовы. Адначасова ЦК Кампартыі Беларусі прыняў рашучыя меры па выпраўленню сцверджаных памылак. Усё гэта дзеля таго, каб сталіца БССР выглядала яшчэ болей прыгожа.

### ЯНКУ КУПАЛУ

У Кіславодску ў санаторыі імя Горкага адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў гонар народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. На працягу многіх год, пачынаючы з 1924 года, Янка Купала часта адпачываў на славутых каўказскіх курортах. Тут, у Кіславодску, Есентуках, Пяцігорску паэт напісаў многа вершаў, у якіх праслаўляў дружбу народаў і адзначаў памяць грузінскага пісьменніка Шата Руставелі, дагестанскага ашуга Сулеймана Стальскага і многа іншых.

### НА СЛОВЫ ЯКУБА КОЛАСА

Адзін са старэйшых майстроў Беларускай эстрады Сяргей Сакалоў, выкарыстоўваючы творы Якуба Коласа, стварыў літаратурна-музычную кампазіцыю «Старонкі з жыцця пісьменніка». Выконваюць яе артысты Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Гэтую праграму падрыхтавалі яны ў гонар 90-ай гадавіны з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры.

### ПРЫГОЖЫЯ, БЫ КВЕТКІ

Нядаўна вялікі павільён Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі БССР у Мінску стаў месцам своеасаблівага паломніцтва мінчан. Яны прыходзілі палюбавацца непаўторнай прыгажосцю кветак, якія дэманстраваліся там на аграмаднай выстаўцы. Шматколерны і пахучы тавар даставілі на выстаўку гароднінная фабрыка, інстытут бульбы і плодагародніцтва, трэст зялёнага будаўніцтва, Цэнтральны батанічны сад і 29 прыватных любіцеляў кветак.

### ПЕСНЯ - БАРАЦЬБІТ

Тры дні ў Палацы культуры Мінскага трактарнага завода гучалі песні і музыка. Тут праходзіў рэспубліканскі конкурс палітычнай песні «Моладзь выкрывае імперыялізм», арганізатарам якога з'яўляліся ЦК камсамола Беларусі, Міністэрства культуры БССР і рэспубліканскі Савет прафсаюзаў. У заключным этапе конкурсу ўдзельнічалі 13 вакальных і вакальна-інструментальных ансамбляў і 13 салістаў-вакалістаў. За высокае выканаўчае майстэрства і прапаганду палітычнай песні званне лаўрэата конкурсу сярод прафесійных салістаў журы прысудзіла навучэнцу Мінскага музычнага вучылішча Віктару Шэйну і студэнту Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Івану Краснадубскаму. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО ЦК ПАРП

30 мая адбылося пасяджэнне Палітбюро ЦК ПАРП, якое прысвячалася некаторым актуальным праблемам замежнай палітыкі Польскай Народнай Рэспублікі. У чарговым пункце нарады Палітбюро разгледзела задачы новага Міністэрства працы, заработкаў і сацыяльных спраў. Галоўнай задачай яго будзе перш за ўсё рацыянальная гаспадарка людскімі запасамі, а таксама вырашэнне асноўных праблем працы і сацыяльных умоў людзей.

### ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ МІНІСТРАЎ

2 чэрвеня адбылося пасяджэнне Рады Міністраў, на якім былі разгледжаны: план рэалізацыі праграмы развіцця краін — членаў СЭУ, праблемы развіцця паслуг для людзей да 1980 года і круг дзейнасці Міністэрства ўнутранага гандлю і паслуг.

### ВІЗІТ ПРЭЗІДЭНТА ЗША

31 мая наведаў Польшчу прэзідэнт ЗША Р. Ніксан. Быў гэта першы афіцыяльны візіт амерыканскага прэзідэнта ў нашай краіне. На аэрадроме сардэчна прывіталі прэзідэнта старшыня Рады дзяржавы Г. Яблонскі і прэм'ер П. Ярашэвіч. З прывітальнымі прамовамі выступалі Г. Яблонскі і Р. Ніксан. Затым прэзідэнт ЗША знаёміўся з Варшавай і сустрэўся з І сакратаром ЦК ПАРП Э. Геркам. Візіт прэзідэнта Р. Ніксана закончыўся 1 чэрвеня. На заканчэнне візіту было падпісана супольнае польска-амерыканскае камюніке. Прэзідэнт Р. Ніксан запрасіў у ЗША Э. Герка, Г. Яблонскага і П. Ярашэвіча.

### СУСТРЭЧА Э. ГЕРКА

30 мая І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк прыняў у сябе з нагоды святкавання Дня работніка спажывецкай прамысловасці дэлегацыю рабочых гэтага рэсорту. На сустрэчы І сакратар ЦК адзначыў вялікі ўклад рабочых калектываў у забеспячэнне людзей харчовымі прадуктамі. На заканчэнне сустрэчы Э. Герэк пажадаў далейшых плённых поспехаў у працы ўсім рабочым спажывецкай прамысловасці.

### СУСТРЭЧА П. ЯРАШЭВІЧА

2 чэрвеня з нагоды Дня хіміка старшыня Рады Міністраў П. Ярашэвіч прыняў у сябе дэлегацыю рабочых хімічнай прамысловасці. Падчас сустрэчы прэм'ер адзначыў ролю хіміі як прамысловасці ў сучасным нашым жыцці. Затым дэлегаты інфармавалі старшыню аб найважнейшых праблемах, звязаных з развіццём польскай хіміі, і аб паспяховай рэалізацыі намечаных планаў.

### ЦЭНТРАЛЬНЫ ДОМ САЛДАТА

Міністэрства нацыянальнай абароны пастанавіла абсталяваць Цэнтральны дом салдата ў даўнім Палацы Любамірскіх. Пачаліся ўжо рамонтна-адаптацыйныя работы, якія салдаты выконваюць грамадскім чынам. Тэрмін перадачы аб'екта ў карыстанне назначаны на кастрычнік 1973 года.

### 25 ГОД АВІЯЦЫЙНАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ

Польская авіяцыйная прамысловасць святкуе 25-годдзе свайго існавання. З гэтай нагоды ў Мельніку была адкрыта Агульнапольская авіяцыйная выстаўка, якая знаёміць з дасягненнямі гэтай галіны прамысловасці. На выстаўцы экспануюцца сучасныя, навейшыя тыпы самалётаў. (яц)

## ВАЯВОДСТВА

### СУСТРЭЧА Ў КУРАТОРЫІ

У Беластоку прабываў міністр асветы і выхавання Ежы Кубэрскі. Міністр сустрэўся з асветным актывам нашага ваяводства. Сустрэчу вёў куратар Э. Крынскі. Міністр Е. Кубэрскі ў сваім выступленні прадставіў галоўныя праблемы, над якімі працуе цяпер Міністэрства асветы — стварыць адзіную асветную сістэму для ўсіх школ, арганізаваць давоз дзяцей у школы з малых мясцовасцей, павышаць кваліфікацыі настаўнікаў. Шмат месца ў выступленні было прысвечана справам дыдактыкі і арганізацыі працы ў школах.

### І БЕЛАСТОЦКАЯ

Міністр асветы і выхавання Е. Кубэрскі ўдзельнічаў таксама ў адкрыцці І Беластоцкай алімпіяды школьнай моладзі, якая праходзіць у нас у рамках агульнапольскага Свята школьнага спорту. На адкрыцці алімпіяды прысутнічалі таксама І сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі, прэзас ВК ЗСЛ Ю. Сапежынскі, старшыня ВК СД Р. Бартнік, прадстаўнікі адміністрацыйных улад на чале з намеснікам старшыні ПВРН Р. Лазаровічам і прадстаўнікі асветных улад — з куратарам Э. Крынскім. Алімпіяда пачалася парадам спартсменаў і масавымі гімнастычнымі выступленнямі, у якіх удзельнічала 600 вучаніц сярэдніх школ Беласточчыны.

Тры дні на ўсіх стадыёнах ваяводства ішла барацьба ў розных дысцыплінах спорту.

### НАРАДЫ СЕЛЬГАСАКТЫВУ

Ад 31 мая да 3 чэрвеня ў нашым ваяводстве праходзілі павятовыя гаспадарчыя нарады сельскагаспадарчага актыву. Прысвечаны яны былі абмяркоўцы развіцця сельскай гаспадаркі і магчымасці лепшага выкарыстоўвання рэзерваў. У павятовых нарадах удзельнічалі члены экзекутывы ВК ПАРП, члены прэзідыума ВК ЗСЛ і члены прэзідыума ВРН.

У апошнюю нядзелю адбыліся такія нарады ў Бельску, Сямяцічах, Кольне, Граеве, Сувалках і Замброве.

У нарадзе бельскага актыву ўдзельнічаў старшыня прэзідыума ВРН З. Спрыха. У сваім выступленні ў час дыскусіі тав. З. Спрыха параўнаў дасягненні ў сельскай гаспадарцы Бельскага павету з агульнаваяводскімі вынікамі. (Бельск яшчэ не дасягнуў сярэдніх ваяводскіх вынікаў ва ўзросце скупкі свіней і малака, у выкарыстоўванні ўгнаенняў). Парушалася таксама справа павышэння прадукцыйнасці індывідуальных гаспадарак, дзе гаспадараць пажылыя людзі, справа асветы для сялян, паляпшэння аператыўнасці сельскагаспадарчай службы і інш.

### ПЛЕНУМ ВЗКР

**На днях у Беластоку адбылося пленарнае пасяджэнне Ваяводскага саюза сельгасгурткоў. Абмяркоўваліся справы, звязаныя з падрыхтоўкай да ваяводскага з'езду. Прадугледжваецца, што ў гэтым годзе вартасць сельскагаспадарчай прадукцыі ў сельгасгуртках будзе большай прыблізна на 300 млн. зл. Шмат гурткоў вырашыла калектыўна гадаваць свіней і вырошчваць збожжа.** (яч)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela, 11.VI.**

7.45 Program dnia. 7.50 TV Kurs Rolniczy: „Pytania i odpowiedzi". 8.25 „Przypominamy, radzimy". 8.35 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 Klub Śmiałych. 10.15 „Wiatr na wrzosowisku" — film dok. („Świat, który nie może zaginąć"). 10.40 „Narodziny nowożytnego krajobrazu" — „Świat marzeń i ideału" („W kręgu mistrzów sztuki"). 11.10 „Moje pierwsze filmy" („W starym kinie"). 12.10 Dziennik. 12.45 „Na olimpijskim szlaku" — teleturniej. 13.45 „Przemiany". 14.15 Muzyka z sal zamkowych w Łańcucie. 14.55 Dla dzieci: Krakowski Teatr Baśni — M. Kann „Syn Faraona". 15.55 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej Gwardia (Warszawa) — Odra (Opole). W przerwie ok. 16.45 „Stadion" — progr. publ. 17.50 PKF. 18.00 A. Czechow — „Dzieło sztuki". 18.35 „Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Arsen Lupin" — film franc. 20.55 „Romanse o miłości i zdradzie", czyli „Uśmiech i piosenka hiszpańska". 21.40 Magazyn sportowy. 22.10 Estrada Literacka: I. Iredyński — „Niebo z blachy fałdowanej" („Nowa Poezja Polska").

**Poniedziałek, 12.VI.**

15.20 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 18.00 „Kino Filmów Animowanych". 18.30 „Poławiacze gąbek" — film dok. pol. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: F. Schiller — „Intryga i miłość". 22.05 „Ex libris" — mag. książki. 22.30 Dziennik.

**Wtorek, 13.VI.**

10.00 „Ruchome piaski" — film fab. pol. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Zasady organizacji pracy w gospodarstwie domowym". 15.20 i 22.15 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Drogi do morza". 17.10 „Oferty". 17.30 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Ruchome piaski" — film fab. pol. 21.25 „Kontakty". 21.55 Dziennik.

**Środa, 14.VI.**

8.15 „Wyrok" — film czechosł. odc. I. 9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Sole". 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Telekonkurs". 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Świat dźwięków". 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „Rok 1917". 13.40 „Wybieramy zawód". 15.20 i 23.10 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dla młodych widzów: „Latający Holender" (Gdańsk), „Ludzie z różnych stron świata" — film. 17.30 „Nie tylko dla pań". 17.50 „Poznajmy przyrodę" — film wł. 18.10 TV Kurier Warszawski. 18.30 „Jeden dzień dyrektora". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Wyrok" — film czechosł. odc. I. 20.50 PKF. 21.00 „Świat i Polska". 21.35 „Tradycja dowcipem załatwiona" — opera-wodewil w I akcie. 22.20 Dziennik.

**Czwartek, 15.VI.**

8.15 Matematyka w szkole: „Wstęp do teorii informacji". 9.00 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — „Goethe-Schiller". 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Język polski — „Spotkanie z pisarzem". 15.20 i 22.30 Politechnika TV I roku. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 Magazyn ITP. 18.00 Program ekonomiczny. 18.30 TV Kurier Kielecki. 18.50 „Gramy o telewizor" — teleturniej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Przypominamy, radzimy". 20.10 Teatr Kobra: F. Durbridge — „Harry Brent", odc. III. 21.20 „Refleksje". 21.50 „Chopin i Lutosławski na dwóch klawiaturach" — gra duet fortepianowy Jerzy Derfel i Maciej Małecki. 22.05 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Piątek, 16.VI.**

10.00 „Siódmy rok miłości" — film fab. NRD. 11.20 „Rekiny z Nikaraguy" — film kanad. USA („Człowiek i morze") odc. V. 15.20 i 22.25 Politechnika TV I roku. Rysunek techniczny. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik TV. 16.40 „Teleferie": „Piąte kółko", „Złamana strzała — film. 17.25 Reportaż z Międzynarodowych Targów Poznańskich. 18.00 Program filmowy. 19.05 „Turystyka i wypoczynek". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Rekiny z Nikaraguy" — film kanad. — USA („Człowiek i morze") odc. V. 20.30 „Kraj". 21.10 Teatr TV na świecie: „Żywcem ożeniony" wg J. Mortimera — widowisko TV angielskiej. 22.05 Dziennik.

**Sobota, 17.VI.**

10.00 „Porwanie dziewic" — film fab. rum. 15.35 Program dnia. 15.40 Program I proponuje. 16.00 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.15 Dziennik. 16.30 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Święto Trybuny Robotniczej" — program estradowy. 21.15 Dziennik. Wiadomości sportowe. 21.45 „Bitwa nad Neretwą" — film fab. jugosł.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 9 czerwca**

11.15 Nowiny. 14.10 Program dnia. 14.15 Moskwa dziś i jutro. 16.00 Panorama nowin. 16.10 Koncert chóru uralskiego. 17.00 Świat socjalizmu. 17.30 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Film dokument. 20.30 Festiwal „Moskiewskie gwiazdy". 21.00 Nowiny.

**Sobota, 10 czerwca**

11.40 Przegląd międzynarodowy. 11.55 Szkatułka muzyczna. 12.10 Almanach TV. 13.10 Film fab. 15.00 W świecie zwierząt. 16.00 Nowiny. 16.10 Panorama międzynarodowa. 16.35 Spotkania muzyczne. 17.00 Nowiny. 17.10 Muzyka narodów ZSRR. 17.45 Spektakl TV. 19.00 Czas. 19.30 Film fab. „Lalka". I seria. 20.50 Koncert estradowy.

**Niedziela, 11 czerwca**

7.30 Program rozrywkowy dla dzieci. 8.30 Kiosk muzyczny. 9.00 Film fab. 10.00 Piosenka radziecka w wykonaniu zagranicznych śpiewaków. 10.40 Białe i czarne. 11.10 Z historii muzyki białoruskiej. 11.40 Koncert życzeń. 12.25 Nowiny. 12.30 Akademia leśna. 13.00 Dla żołnierzy. 14.15 Uniwersytet ludowy. 15.00 Filmy animowane. 16.00 Nowiny. 16.10 Ludowi artyści ZSRR. I. Archipowa. 17.00 Klub filmowy. 18.00 Spektakl TV. 19.00 Czas. 19.30 Film fab. „Lalka". 2 seria. 20.50 Nowiny. 21.00 Mistrzostwa ZSSR w zapasach.

 

Пачатак на стар. 1

## У Ставішчах

ца людзі — старэйшыя і маладыя. Старэйшыя мужчыны рэдка мінаюць мясцовы спажывецкі магазін, дзе прадаецца піва і мацнейшыя напіткі. А потым ненатуральна выпраставаныя, блытаючы нагамі, шукаюць па вёсцы чагосьці.

Бягуць блеючы авечкі і, па-авечаму дурныя, пруць усе за першай аж на канец вёскі, каб потым хлапчукі і мужыкі вялі іх да свайго двара.

Сяджу з маладымі, здаровымі дзяўчатамі на лавачцы каля солтысавай хаты. У агародчыку расцвілі цюльпаны. Дачка солтыса Шульжыка — Раіса ідзе ў хату, пускае пласцінку беларускіх песень у харавым выкананні мо Рыгора Шырмы, а мо і не, не правярала. На вуліцы, на лавачках усё больш людзей. З Верай Аксютыч, якая выдаецца мне маёй апорай, бо такая бадзёрая, свабодная, дапытлівая, ідзем у святліцу. Святліца іхняя не спадабалася мне адразу, як прыехала ў вёску. Але па справядлівасці скажу, што не падабаецца яна і самой моладзі ў Ставішчах. Думкі ў іх ходзяць, каб яе неяк упрыгожыць. Святліца служыць найбольш для танцаў. Як рукой падаць, тут асада Чарэмха, а там і дом культуры чыгуначніка, і клуб «Руху», туды ідуць ахвотней.

Ставішчы — частка Чарэмхі, а слухі ўжо ходзяць, што вёска перастане існаваць і стане вуліцай Чарэмхі. Гэты факт мае таксама ўплыў на дзейнасць тутэйшай святліцы. Ды напэўна маюць рацыю тутэйшыя маладыя, думаючы, што трэба ажывіць і аднавіць сваю святліцу.

Маладыя ў Ставішчах — асобная тэма. Гэта з імі прайшлі некалькі гадзін маёй сустрэчы. Аб чым не гаварылі мы, аб чым не расказвалі яны! Як у вялікай і дружнай сям'і, адчувала сябе я ў іх. На сустрэчу з «Нівай» прыйшла моладзь. Найперш тая па 18—20 год — прыстойныя маладыя хлопцы і бадай найпрыгажэйшыя дзяўчаты, потым падышлі школьнікі па 14—15 год. Прыйшло некалькі жанчын. Не прыйшлі старэйшыя дзядзькі, думаю таму, што доўга адкрыты быў той магазін з півам. — Няважна! — падумала я. Поўнасцю задаволена была маладзёжным форумам. Іх салідарнасць, цікаўнасць да свету і сардэчнасць былі найбольшай узнагародай.

Ёсць у вёсцы гуртох БГКТ, аб чым у пачатку сустрэчы паінфармаваў Юрка Рошчанка — старшыня яго. Гурток тут налічвае аж 56 членаў — адна моладзь. Адзін з маіх субяседнікаў, не член БГКТ, у канцы сустрэчы звярнуўся да Юркі: «Ад сённяшняга вечара лічы 57 членаў». А цікава, ці праўда гэта?

Гурток не выпрацаваў яшчэ плана і метаду дзейнасці, але ў галовах людзей многа думак. Толькі сабраць іх, толькі пачаць сваю вялікую энергію і інтэлігенцыю выражаць у дзейнасці больш канкрэтнай. Формы Беларускае таварыства прапануе вельмі шырокія, ёсць з чаго выбраць.

Цёмным вечарам пачаў з шумам ліць дождж. Хтось сказаў: «Прыехалі па вас». Сардэчнае развітанне. Новыя сябры цэлай горбай стаяць на сходах. Думаю, што ўдалася сённяшняя сустрэча з «Нівай».

*Вера Леўчук*

## Фронтам да вёскі

## Абавязак страхоўкі будынкаў

*Каб дапамагчы сялянам, улады выдалі распараджэнні, якія накіраваны на больш эфектыўную ахову сялянскай маёмасці ад шкод, выкліканых стыхійнымі сіламі і іншымі здарэннямі. З гэтай мэтай уведзены змены ў распараджэннях, якія адносяцца да кампенсацый, выплачваемых ПЗУ. Справы гэтыя рэгулююць чатыры распараджэнні Рады Міністраў, якія абавязваюць ад 1 студзеня 1972г., а менавіта:*

*1. Распараджэнне Рады Міністраў аб абавязковай страхоўцы будынкаў.*

*2. Распараджэнне Рады Міністраў аб абавязковай страхоўцы рухомай маёмасці ў сельскіх гаспадарках.*

*3. Распараджэнне Рады Міністраў аб абавязковай страхоўцы ўраджаю.*

*4. Распараджэнне Рады Міністраў аб абавязковай страхоўцы жывёлы.*

*У гэтым нумары падаем асноўны змест першага з гэтых распараджэнняў.*

Распараджэнне Рады Міністраў аб абавязковай страхоўцы будынкаў адносіцца толькі да індывідуальных сялян і сельскіх вытворчых кааператываў. Страхоўцы не падлягаюць будынкі, пакінутыя ўласнікам і неўжываныя, або тыя, што не надаюцца да ўжывання ў сувязі з іх дрэнным станам. Выключаны з страхоўкі таксама будынкі, прызначаныя на знясенне згодна з умовай або з іншых прычын, асабліва, калі ўласнік атрымаў дазвол на пабудаванне на месцы старога будынку новага. Не падлягае страхоўцы таксама будынак, калі адміністрацыйныя ўлады выдалі загад знясення яго.

ПЗУ выплачвае кампенсацыю за знішчэнні, выкліканыя пажарам, ударам перуна, выбухам, упадкам паветранага сродка транспарту, паводкай, ураганам, западаннем зямлі, градам.

ПЗУ не адказвае, калі шкода выклікана мэтанакіравана ўласнікам будынку.

Абавязковай страхоўцы падлягае будынак ад дня, калі пачынаецца карыстанне з будынку, або калі закончана пакрыццё дахам. Уласнік абавязаны аб гэтых здарэннях паведаміць у ПЗУ. Ён абавязаны таксама паведаміць у ПЗУ аб зменах у будынку, якія павышаюць яго вартасць, або зніжаюць яе. Паведамленне можа быць зроблена ў форме вуснай, пісьмом або тэлеграфам. Падаюць нумар будынку і з якога матэрыялу сцены і дах, а таксама інфармацыі, якіх патрабуе ПЗУ. Адказнасць ПЗУ за шкоды пачынаецца ад моманту, калі пачынаецца карыстанне з будынку, або калі закончана пакрыццё дахам. ПЗУ ацэньвае будынак і прынамсі раз на 10 год правярае стан застрахаваных будынкаў. Яно абавязана дастасоўваць вартасць страхоўкі да змены цэн матэрыялаў і працы, аб чым паведамляе абвяшчэннем.

Калі ўзнікне шкода, уласнік павінен на працягу 7 дзён паведаміць аб гэтым ПЗУ або ў бюро грамадскай рады нарадовай.

ПЗУ выплачвае поўную вартасць шкоды ў рамах сумы, на якую будынак быў застрахаваны. Аднак, калі б шкода ўзнікла ў выніку парушэння ўласнікам правілаў, устаноўленых з той мэтай, каб не дапусціць да паўстання шкоды, або калі б дзякуючы нядбаласці ўласнік прычыніўся да яе паўстання — выплачваецца 80%. Калі б шкода была выклікана мэтанакіравана ўласнікам, як была аб гэтым мова, страхоўка не выплачваецца.

Паводле правілаў, якія абавязвалі да 1.I.1972 г., уласнік у найбольш карысным для сябе выпадку атрымоўваў толькі 80% кампенсацыі.

Кампенсацыя за шкоды, якія ўзніклі ў выніку знішчэння або пашкоджання будынку, выплачваецца на пабудову новага будынку, направу пашкоджанага, або рамонт іншага будынку. Таму 1/3 кампенсацыі выплачваецца пасля злажэння ўласнікам будынку заявы, што атрыманыя грошы выкарыстаюцца на вышэй пададзеныя мэты. Другая рата выплачваецца пасля падання ўласнікам будынку пісьмовай заявы, што атрыманыя грошы выдаў на будову або куплю будаўляных матэрыялаў, звезеных на пляц. Калі шкода не перавышае 1/3 вартасці будынку, або сумы 5000 зл., кампенсацыя выплачваецца аднаразова.

Толькі ў выключных грамадска або гаспадарча абаснаваных выпадках кампенсацыя за знішчаны будынак можа быць выплачана на іншыя мэты, чымсьці адбудова або рамонт будынку.

*В. Склубоўскі*

Пачатак на стар. 1

## Галасы юных спевакоў

стоцкага павету за выкананне «Песні аб Леніне» і «Явар і каліна». Зіна Лабадзінская і Вольга Парфенюк з пачатковай школы ў Кленіках Гайнаўскага павету за выкананне «Дубка» і народнай «Пасылала баба дзеда...» занялі другое месца. Трэцяе месца занялі Зоф'я Іванюк і Лідзія Федарук з пачатковай школы ў Плёсках Бельскага павету, якія праспявалі «Беласточчыну» і «Колькі ў небе звёзд».

У катэгорыі трыю *першае* месца журы прызнала Анне Захарчук, Аліне Пшэсмыцкай і Галіне Языкавай з пачатковай школы ў Гарадку Беластоцкага павету за выкананне «Песні пра Заслонава» і «Песні пра Нёман». Зоф'я Грыц, Вольга Парфенюк і Зіна Лабадзінская з пачатковай школы ў Клейніках Гайнаўскага павету за «Баладу аб партызанцы Галіне» і «Летнюю ночку купальную» атрымалі другое месца, а Ірына Салавей, Анна Грыка і Ліля Грыка з пачатковай школы ў Вейках Беластоцкага павету за выкананне песень «Родны край» і «Лянок» — трэцяе месца.

З квартэтаў *першае* месца занялі Галіна Пракаповіч, Эльжбета Стшалінская, Зіна Мартынюк і Славаміра Аляксеюк з пачатковай школы ў Мілейчыцах Сямяціцкага павету, якія выканалі «Беларусь, мая радзіма» і «Песню пра Нёман». Другое месца было прызнана Яўгінні Баршчэўскай, Ніне Стасюк, Любе Таранта і Аліне Фіёнік з пачатковай школы ў Пашкоўшчыне Бельскага павету за выкананне песень «Ручнік» і народнай «Ой, ляцелі гусі з броду...» Трэцяе — Людміле Дамарук, Зоф'і Пытэль, Ніне Пытэль і Валянціне Ціханюк з пачатковай школы ў Клюковічах Сямяціцкага павету, якія праспявалі народныя песні «Лявоніха» і «Ой, ляцелі гусі з броду...»

Спецыяльную ўзнагароду рэдакцыі «Зоркі» здабыў надзвычай прыемны дуэт Уладзіміра і Аляксандра Леўчукаў з пачатковай школы ў Тынявічах Вялікіх Гайнаўскага павету, якія звонкімі галасамі і з задорам праспявалі «Беласточчыну» і «Цячэ за гаем рэчка...»

Журы ўзнагародзіла найлепшага юнака акампаніятара Пецю Ваўранюка з пачатковай школы ў Вейках Беластоцкага павету.

Конкурс «Беларуская песня» — адна з найбольш удаласных культурных і выхаваўчых мерапрыемстваў у асяроддзі школьнай моладзі — прынесла ў гэтым годзе вельмі паказальныя вынікі і абяцае стаць у будучыні мерапрыемствам, якое ахопіць усе школы і ўсіх таленавітых юных спевакоў.

*Мікалай Гайдук*

*Фота Цаф — Р. Сянько.*

*У АБ'ЕКТЫВЕ ФОТАРЭПАРЦЁРА*

*Такія электрычныя стаўбы сталі звычайным элементам краявіду Беласточчыны. Гэта (на здымку) — адзін з стаўбоў, якія складаюць электрычную лінію, па якой плыве электрычны ток з Савецкага Саюза.*

*Дзякуючы гэтай лініі мы можам мець электрычны ток увесь год.*

*Фота А. Карпюка*

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# ПЕРЫЯД XIX СТАГОДДЗЯ

### ЯН ЧАЧОТ — ЧАСТКА IV

У беларускай творчасці Яна Чачота найбольш поўна выявіліся яго адносіны да беларускага народа. Творчасць гэтая была вынікам эмацыянальнай сувязі паэта з беларускім сялянствам. 28 беларускіх вершаў змешчана ў VI томе зборніка «Piosenki wieśniacze znad Niemna i Dźwiny». У вершах гэтых, так як і ў многіх фрагментах прадмоў да паасобных тамоў зборніка, выявіліся погляды, прынцыпы і ідэалогія Чачота. Розніца ў ідэйнай накіраванасці, выступаючай у прадмовах і вершах Чачота, заключаецца ў тым, што апеляцыі з прадмоў былі накіраваны ў адрас паноў, у адрас інтэлігенцыі, у вершах жа паэт звяртаўся з такімі ці іншымі прапановамі да беларускай вёскі, да сялян.

Чачот быў абаронцам беларускага селяніна, марыў аб паляпшэнні яго долі, прагнуў бачыць яго адукаваным і заможным. Пры гэтым аднак Чачот не быў ворагам тых, хто кінуў селяніна на дно ўбоства і роспачы — мясцовых землеўласнікаў. Цяжка было ваяваць за селяніна, не кранаючы яго ворага — пана. Чачоту здавалася, што гэта з'яўляецца магчымым. Не разбураючы існуючай феадальнай сістэмы, Чачот прагнуў яе ўдасканаліць шляхам класавай згоды і гармоніі. Здаючы сабе справу з недасканаласці існуючай грамадскай сістэмы, стараўся палепшыць яе. Прычыну паніжэння, убоства і няшчасцяў селяніна бачыў ён не ў дзейнасці паноў, а ў дзейнасці слоя падпанкаў, у дзейнасці аканомаў-цівуноў, загадчыкаў, якія стаялі паміж панам і селянінам. Другой прычынай сялянскіх няшчасцяў, на думку Чачота, былі пэўныя схільнасці ў характарах і прывычках вясковага чалавека. Перш за ўсё звяртаў ён увагу на п'янства і ляноту. У іх бачыў крыніцу сялянскай нядолі. Такім чынам, вынікам прыпісваў ён значэнне прычын. Чачот стварыў ідылічную ідэю класавай згоды паміж найбольш варожымі грамадскімі слаямі, паміж сялянамі і панамі. Быў схільны называць добрых паноў бацькамі, а добрых сялян дзецьмі. У такім падыходзе выявіліся апякунскія, хлапаманскія адносіны Чачота да народа. Ствараючы ідылічную карціну панска-сялянскіх адносін, Чачот спасылаўся перш за ўсё на практыку памешчыкаў Храбтовічаў, якія ў Шчорсаўскіх маёнтках увялі значныя рэформы.

«Шчорсы слывуць мужыкамі  
І ласкавымі панамі,  
Што і чытаць нас вучылі  
І любілі, не глумілі».

Бадай што найбольшую колькасць сваіх беларускіх вершаў прысвяціў Чачот праблеме п'янства. У вачах паэта карчма вырастае ў сімвал зла, якое аплятае, як павук, селяніна, паралізуе яго разумовыя якасці, знішчае яго працаздольнасць, разбурае сямейную гармонію, знішчае структуру эканамічнага ладу яго гаспадаркі.

«А бадай ты, новая  
Карчомка, згарэла,  
Як мая цераз цябе  
Хатанька згалела!  
Дзетачкі і жоначка  
Без хлеба у тузе;  
Волікі і конікі  
Топяцца у лузе».

Бадай што наймацней абураецца паэт на п'яную жанчыну, якая здаецца яму найбольш прыкрай і ганебнай з'явай. З постаццю жанчыны звязвае Чачот таксама неахайнасць. Малюе ён партрэт гаспадыні, на якой знаходзіцца «дзве асьміны сажы». Раіць гаспадару ўзяць дубіну і абтрэсці з жонкі адну асьміну бруду. Трэцюю загану сялянскай звычаёвасці бачыць Чачот у ляноце. Высмейвае яе ў многіх вершах. Лянівы селянін не можа забяспечыць утрымання ні сабе, ні сваёй сям'і. Не рэагуе ён на сляпыя вокны ў хаце, на брак коміна, на супольнае прабыванне з сям'ёй цялят, свіней і гусей. А як жа лёгка можна было б прарэзаць большыя вокны і ўпусціць праз іх у хату сонца.

Чацвертая загана сялянскай этыкі праяўляецца ў недастатковай рэлігійнасці. Цікавячыся водкай, мужычок перастае цікавіцца святамі, постамі, царквою. Адсюль толькі крок да абдымкаў д'ябла.



 

 




*На здымку: Наваколле вёскі Вайкаў над Бугам. Вучні Чартаеўскага тэхнікума адпачываюць у перапынку ў час краяведчай экскурсіі на веласіпедах.*
*Фота З. Савіцкі*

Калі пытаюць у гаспадароў Сямяціцкага павету пра магчымасці і перспектывы развіцця прамысловасці ў іх раёне, яны найчасцей бездапаможна раскладваюць рукі. Затое ахвотна і шчыра падзеляцца сваім багаццем, якое ў іх за парогам. Каб яго ўбачыць, хопіць, напрыклад, узняцца на Замкавую гару ў Мельніку і паглядзець уздоўж берагоў ракі Буг, якая тут павольна і ляніва, быццам непрыкметна, нясе свае воды крутымі і шматлікімі загібамі, вызначаючы свой шлях шырокай і жывапіснай далінай.

Налюбаваўшыся цудоўнымі краявідамі, раю прылажыць вуха да травы, што парастае верхавіну Замкавай гары і ўважліва паслухаць. Можа пашчасліўіцца нам пачуць трывожны гоман царкоўных званоў, якія клічуць людзей на дапамогу.

Пра гэта калісьці расказаў мне адзін старэча з вёскі Сэрпеліцы, якая знаходзіцца на супрацьлеглым беразе Буга, ужо ў Варшаўскім ваяводстве. Паводле яго слоў рэч мелася так.

Даўным-даўно, калі па божым свеце з канца ў канец ганяліся татарскія орды, прыімчаліся яны і на мельніцкую зямлю — багатую і мёдам, і рыбай, і дзяўчатамі, слаўнымі сваёй прыгажосцю, і багатырамі моцнымі, ды працавітымі, і хатамі, гасцінна адкрытымі, дзе чужынцам адводзілі ганаровае месца ды хлебам і соллю віталі. Так і гэтых дзікароў мангольскіх, — кажа дзядуля, — яны прынялі, дружалюбнасці ад іх спадзеючыся, мёдам пачаставалі, словам забаўляць хацелі. А тыя манголы — о, божа мой! — усклікнуў дзядуля, — іх усіх на смерць засеклі, толькі жонак і дзяўчат пакінулі. Тады давай «пір да мір» спраўляць і жанчын нашых тутэйшых ганьбіць.

Адзін мельнічанін ад пагрому схаваўся ў званніцу замкавай царквы і адтуль глядзеў на бяду ды ганьбу сваіх родзічаў. Не вытрымаў ён, хаця страх у яго сілы адбіраў. Пачаў біць у званы, дапамогі клікаць. Быў ён яшчэ маладзенькі, бязгрэшны, аніякай чужой крыўды не меў на сваім сумленні, дык бог паслухаў яго просьбы і зрабіў так, што гэты замак разам з татарамі і ўсім іншым, што там было, праваліўся скрозь зямлю, а царкоўныя званы яшчэ і дасюль адзываюцца кожны год у той дзень, калі здарылася гэтае няшчасце. Толькі, — закончыў дзядуля, — ніхто дакладна не ведае, які гэта дзень.

Дык можа нам пашанцуе. А калі не, тады павандруйма далей уздоўж Буга. Па дарозе будзе Драгічын са сваёй даўняй гісторыяй і не менш важнымі атракцыёнамі сучаснасці. Таму гэтай мясцовасцю зацікавілася арганізацыя адпачынку для працоўных (ФВП) і абсталявала ў Драгічыне 120 месц у прыватных кватэрах. Там таксама адпачываюць работнікі прэзідыума павятовай рады ў Сямяцічах і сямяціцкія адвакаты. Знайшлося б месца і для многіх другіх, хай бы толькі былі ахвотныя.

Крыху далей — надбужная Вулька. Гэта ўжо па-сучаснаму загаспадараны турыстычны цэнтр. 37 кампінговых домікаў, газ, святло, выпазычальня спартыўнага абсталявання і прылад, а кругом лес і надрэчны беленькі пясок, на якім як жа прыемна пагрэць змучаныя косці. Тут можна пакупацца, бо Буг у гэтым месцы неглыбокі і забяспечана ахова, можна таксама паплаваць, калі хто захоча, а хто не ўмее, дык ёсць магчымасць навучыцца.

Наступны пункт — Цехановец. Гэты горад — сёлетні *агульнадзяржаўны майстар па гаспадарнасці.* Апрача іншых прыемнасцей, забяспечвае сваім гасцям смачную і недарагую ежу ў новенькай сталовай і кафейнай.

Калі гаворым у павятовым камітэце партыі пра гэтае багацце за парогам, назвы Мельнік, Драгічын, Цехановец, надбужная Вулька паўтараюцца найчасцей. Праўда, гэтыя мясцовасці з пункту гледжання турызму найбольш цікавыя. Здаецца аднак, што неабходна павялічыць іх рэестр.

У нашым механізаваным, гаманлівым свеце найкаштоўнейшым дабром з'яўляецца спакой і цішыня, ды разнастайнасць краявідаў. А гэтага ў Сямяціцкім павеце хоць адбаўляй. Вось у лесе, што сцяной падыходзіць да Мілейчыц, да вайны лячыліся хворыя туберкулёзам. Чаму цяпер не выкарыстаць гэтага мікраклімату? А наваколле між вёскамі Машчона Каралеўская і Машчона Панская — з яго цудоўнымі пералескамі і легендай пра царкоўку на ўзгорку за вёскай Грабарка? А бярозавая рошча і дубовыя гаі там, дзе вёскі Бацікі — між Сямяцічамі і Дзятковічамі, дзе поўна арэхаў і грыбоў?

Усё гэта трэба аднак разрэкламаваць, давесці да ведама зацікаўленых, заахвоціць іх. Тады багацце за парогам Сяміцічыны будзе прыносіць прыбытак, што хоць у нейкай меры вызваліць гаспадароў Сямяціцкага павету ад ласкі і няласкі тых, хто плануе размеркаванне прамысловасці.

*В.Рудчык*

КУТОК ГАСПАДЫНІ

## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### СЫРЫ, ЯКІЯ ПРАДУКУЮЦЦА Ў ПОЛЬШЧЫ. ЦВЁРДЫЯ СЫРЫ.

#### ЭМЕНТАЛЬСКІ СЫР

Эментальскі сыр паходзіць з Швейцарыі. Дзякуючы смаку гэтага сыра, прадукцыя яго разгарнулася паўсямесна амаль у цэлай Еўропе і ў заморскіх краінах, якія маюць для гэтага адпаведныя ўмовы. У Польшчы швейцарскія сыры прадукуюць у асноўным у прыкарпацкай паласе з цэнтрам у паўднёвай частцы Шлёнска. Эментальскі сыр мае характэрную форму і выгляд. Фармуецца ён у вялізныя кругі, якія важаць 70 кілаграмаў. Дыяметр паверхні верхняй часткі складае амаль 70 см, вышыня каля 14 см. Скурка яго тонкая, гладкая, крэпкая. Калі перакроіць сыр упоперак, то ў трох сантыметрах ад скуркі выступаюць у мякішы сыра характэрныя дзіркі авальнай формы велічынёй з вялікую чарэшню. Мякіш мае аднастайны светлажоўты колер. Смак і запах сыра прыемны, саладкаваты.

#### СЫР ВАРМІНСКІ

Гэты сыр прадукуецца ў Польшчы нядаўна. Мае ён прамавугольную форму, бакі крыху закругленыя. Адзін сыр важыць каля 4,5 кг. Скурка сыра гладкая, эластычная, пакрыта парафінам. У мяккім і эластычным мякішы сыра відаць прадаўгаватыя дзірачкі велічынёю з ячменнае зернетка.

#### СЫР ГОЎДА

Сыр гоўда вядомы на міжнародных рынках як тыповы галандскі сыр. Мае ён форму нізкага цыліндра з выпуклымі бакамі. Дыяметр яго — 30—35 см. Вышыня 11—12 см. Адзін сыр важыць ад 8 да 12 кг . Скурка, як у тыповых галандскіх сырах, эластычная і гладкая, жоўтага колеру. Дзіркі сыра размешчаны ў мякішы раўнамерна і даволі рэдка. Мякіш эластычны і адналіты. Сыр мае тыповы арэхавы смак. У маладых сырах дапускаецца кіславаты запах, у старэйшых сырах — даволі пікантны.

#### СЫР ЭДАМСКІ

Эдамскі сыр, як і сыр гоуда, вядомы ў міжнародным гандлі як тыповы галандскі сыр. Эдамскі сыр фармуецца найчасцей у круглыя галоўкі, крыху сплюснутыя, важаць яны ад 1,8 да 2,5 кг. Дыяметр галовак — 14—17 см. Скурка сыра бывае звычайна вішнёвага колеру. Пакрыта яна парафінам. Дзіркі ў мякішы размяшчаюцца даволі раўнамерна. Дыяметр іх вагаецца ад 4 да 6 сантыметраў. Мякіш мае эластычную кансістэнцыю, адналіты, колеру саломы спелай пшаніцы. Эдамскі сыр мае далікатны, крыху кіславаты, без ніякіх запахаў смак. У Польшчы прадукуюцца таксама эдамскія сыры ў блоках, памеры якіх 12x13x30 см, важачыя каля 5 кг. Якасць і смак гэтага сыра такі ж самы, як і сыра, які прадукуецца ў галоўках.

У наступным нумары падамо працяг пералічэння цвёрдых сыроў, якія прадукуюцца ў Польшчы.

*Гаспадыня*




Тады, у пахмурную студзеньскую раніцу 1945 года, мы, аднак, ехалі ў Кракаў, яшчэ не ўяўляючы ў поўнай ступені напалу баёў.

У нашым распараджэнні ўсё той жа «віліс» і спакойны, марудлівы вадзіцель-сібірак, з яго нязменнай прыказкай: цішэй едзеш — далей будзеш.

Тут яна дарэчы. То тут, то там, перасцярога: «Міны!». Мы павольна едзем па расчышчаных маршрутах з візітнымі карткамі — добрымі пажаданнямі на дарогу нашых сапёраў: «Размініравана», «Мін няма».

...Мяне пацягнула да знаёмых мясцін. Павярнулі да Мантэлюпіхі. Вось ён, змрочны будынак кракаўскай турмы. Нам з Вольгай пашанцавала. А колькі загінула ў гэтым каменным мяшку ад катаванняў, колькі загубленых жыццяў на сумленні аднаго нашага агульнага «знаёмага — следчага-веселуна!»

Я заплюшчыў вочы і выразна, як на экране, убачыў сцены сваёй камеры. У ржавых плямах ад крыві, падрапаныя пазногцямі, спісаныя агрызкамі алоўкаў.

Калі б турэмныя сцены маглі загаварыць... Калі б...

Азірнуўся. Побач бязгучна, глытаючы слёзы, плакала Вольга. І ў вачах яе я чытаў тое ж пытанне, якое не давала спакою і мне: «Што з татусем, Стэфай, Рузяй! Ці жывыя...»

Врублі... Врублі... Ніколі не забуду тое, што вы зрабілі для нашай справы.

Тады, у схроне, затаіўшы дыханне, скурчыўшыся ў камяк нянавісці, я ведаў, я быў упэўнены: Комар не падвядзе, не выдасць. Верыў у старога Міхала: і ён з той пароды, што хоць цвікі рабі. Але Стэфа? Адкуль у гэтай дзяўчынкі ўзяліся сілы? Ляжала пад дулам аўтамата, збітая, у сіняках, побач з маім схронам. Тут нават слоў не трэба. Жэст рукой, паварот галавы — і канец. Выстаяла. Нічым не выдала капітана Міхайлава. Нізкі паклон і табе, татусь, і вам, мілыя сёстры Стэфа і Рузя, за вашу стойкасць, за любоў і веру ў маю краіну, за ваш подзвіг.



*Міхал Врубель — татусь. Пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны І-ай ступені.*

...З Мантэлюпіхі дзяўчаты пацягнулі мяне на Тандэту.

— Паказвай, паказвай, дзядзька Вася, дзе ты расстаўся са сваімі анёламі-ахоўнікамі.

Давялося паказаць. Вонкава Тандэта за шэсць месяцаў амаль не змянілася. Такое ж бойкае месца. Кіпіць, бурліць «чорны рынак». З'явіліся і новыя асобы. Манашкі з надзьмутымі тварамі, у высокіх, накрухмаленых снежна-белых каўнерыках. Таксама штосьці прадаюць, купляюць.

Пабывалі мы з дзяўчатамі ў кіно. Круцілі якуюсьці даваенную камедыю. Здаецца «Антон Іванавіч злуе».

Затым да вечара блукалі ўтраіх па вуліцах, плошчах, слухалі ажыўленую гамонку горада. Радаваліся ззяючым, шчаслівым тварам. І плылі нам насустрач старажытныя палацы, замкі з вежамі і флюгерамі. У касцёлах ішло богаслужэнне. Праз расчыненыя дзверы даносіліся ўрачыстыя гукі аргана. Зімовае сонца асядала на рознакаляровых вітражах. Пасля руін і папялішчаў Днепрапятроўска, Кіева ўцалелы, выратаваны Кракаў здаваўся цудам.

Мы спыніліся ў старой гасцініцы ў цэнтры горада непадалёк ад Сукеніц. Я прачнуўся быццам ад штуршка. Падышоў да акна. Над начным горадам імкліва праносіліся воблакі. На якоесьці імгненне ў разрыве хмар паказаўся месяц, і, быццам у спешцы, выраслі з цемры строгія стрэльчатыя лініі Марыяцкага касцёла, вежы, няясныя абрысы шпіляў, невыразныя сілуэты Вавеля.



 

# АГЕНЦТВА АБС

Т(ана) А(ба) Б(аба) С(казала) ПАВЕДАМЛЯЕ

## СКРЫЖАВАНЦЫ

Яшчэ аб зубрах. Але ўжо не аб лясных і палявых, а аб вясковых, падляшскіх скрыжаванцах.

20.IV.1972 г. Чацвер. Цягнік Бельск — Гайнаўка. Пятая гадзіна. Цягнік? Вандроўны цырк! Маладыя, валасатыя, барадатыя, рагатыя хлопцы. Столькі іх развялося, што аж страх каля іх праходзіць. І зубрыныя ў іх хваробы. Вочы перамяніліся, сталі злыя, як агонь. І характар перанялі ад зуброў. Як разгневаецца зубр, дык адразу кідаецца на чалавека. А правучыць зубра нельга, бо яны, відома, пад апекай. Дык ім гэтага і трэба. Гуляй душа! А зачэпіш іх — крыўдуй на сябе: яны за свае ўчынкі не адказваюць. Хвасты падымуць угору, рогі апусцяць уніз, морды выкрывяць, высалапяць доўгія языкі, вочы іх стануць вялікія і страшныя. Дзікім голасам заравуць. Няма ратунку — уцякай.

Не мыюцца, не брыюцца, не стрыгуцца. Баяцца, каб не страціць свайго жывёльнага выгляду, каб не выбіцца з зубрынага стада. Апанавалі цягнікі, нярэдка ездзяць у першым класе. Нішчаць вокны і іншае абсталяванне вагонаў. Гарцуюць, важныя, на прыпынках. Ходзяць па вагонах, як кантралёры. Шукаюць дзяўчат. Знайшоўшы, прыліпаюць нахабна, па-зубрынаму.

А паглядзіце на прыпынкі! Сцены распісаны зубрынымі рагамі: шэдэўры зубрынага розуму і культуры.

Пара адгарадзіць гэтых зуброў ад людзей, загнаць іх у добры звярынец, паставіць вопытных старажаў, мо ператворацца ў людзей. МСМ

### УНУК

— Дзядуля! Ёсць у цябе зубы?
— Няма.
— Ніводнага?
— Ніводнага.
— Тады, дзядуля, патрымай мой пернік.







# НІЎКА

## Ты чакай...

Па табе сумую, любка,
Пазнаю, ты так і знай.
Не кідай жа толькі трубку
І дурным не называй.

Ні ў кіно, ні на бульвары
Лёс не зводзіў разам нас,
Ды жыццё ўсё толькі мару
Голас твой пачуць хоць раз.

Ах, які, відаць, напеўны!
Сэрцам чую і душой,
Што ласкавей ты, напэўна,
Жонкі першае маёй.

Разумней другое жонкі.
Хоць яна і педагог,
Ды нацягвала пастронкі —
Кроплі выпіць я не мог.

Ну, а трэцяя, што зараз,
За гультайства ўсё кляне.
Хіба з ёю кашу зварыш?
Гэта жонка не па мне.

Ты чакай ля тэлефона,
Калі жонка дасць адбой,
Пазваню табе сягоння,
Як сустрэцца нам з табой.

*Тэнасе Цуркану*



## Галаваломка



Перасуньце зоркі на найбліжэйшыя свабодныя палі так, каб у кожным гарызантальным і вертыкальным радзе аказалася па тры розныя фігуры. Фігуры можна перасоўваць па простай лініі і наўскос.

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*



## АМЕРЫКА

Мужчына быў вельмі задаволены сабой, бо ўчора зрабіў тры добрыя ўчынкі. Спаткаўшы на вуліцы бедную жанчыну, якая, трымаючы на руках хворае дзіця, плакала, ён спытаў, што з ёю здарылася. Жанчына адказала: яна плача таму, што яе дзіця памірае ад голаду. Ён даў дзесяць долараў і пакінуў *свой* адрас, каб *яна вярнула рэшту*, калі купіць малому харч.

— Ну, гэта адзін учынак. А якія яшчэ два?

— Няўжо не разумееш, што ў гэтым адным усе тры. Па-першае, я супакоіў жанчыну, каб яна не плакала, па другое, я даў грошы, каб яна накарміла дзіця. А па-трэцяе, я пазбавіўся гэтых дзесяці фальшывых долараў, якія трымаў у сябе больш як год.

## СУЧАСНАСЦЬ

*Варажбітка.* Карты гавораць, што хутка вы спаткаецеся з вядомым рэжысёрам і станеце кіназоркай.

*Дзяўчына.* Але ж тое самае вы гаварылі і маёй сяброўцы.

*Варажбітка.* А што мне застаецца рабіць, калі ўсе сённяшнія дзяўчаты мараць толькі аб гэтым?

## БАЦЬКАВЫ СЫНОЧКІ

Захварэў бацька, прыкавала яго хвароба да ложка. Вось ён і просіць старэйшага сына:

— Васілёк, устань, падай мне вады!

А Васілёк разлёгся сабе на печы, быццам не чуе, а потым кажа:

— Ляжыце сабе, тата, і не хвалюйцеся. Навошта вам вада?

А тут абазваўся другі сынок, Андрэй, што ляжаў на палацях:

— Татка, чаго вы просіце гэтага гультая? Лепш вы самі ўстаньце, напіцеся, ды заадно і мне падайце.

## ПЕРАМОЖЦА

У адным гарадку праводзіліся спаборніцтвы па ежы. Адзін з удзельнікаў паказаў на іх самыя лепшыя вынікі. За адведзены час ён з'еў вялікі біфштэкс, кола кілбасы, мясны пірог і торт. Журы прызнала яго пераможцам.

Пакідаючы сцэну, на якой праводзіліся спаборніцтвы, ён сказаў сваім балельшчыкам:

— Дарагія, не гаварыце толькі аб гэтым маёй жонцы, бо я магу застацца... без абеда.

## ШТО АТРЫМАЛАСЯ

— Мы дамовіліся са сваёй сяброўкай гаварыць у вочы праўду аб нашых недахопах.

— Ну і што з гэтага атрымалася?

— Я ўжо не размаўляю з ёю пяць гадоў.

## ДЗІЎНЫ ВЫПАДАК

Аднойчы Вальтэр убачыў у пакоі вяльможы некалькі дзесяткаў парыкоў.

— Дзіўны выпадак! — усклікнуў вядомы філосаф. — Столькі парыкоў у чалавека без галавы...

## ВЕСТКА

Звоняць з радзільнага дома.

— Перадайце, калі ласка, галаве сям'і, што жонка падарыла яму трайню.

— Абавязкова, але не цяпер, сястра. Ён голіцца.





## ДАЎ ЗРАЗУМЕЦЬ

Позні час, а госці не разыходзяцца. Гаспадар час ад часу паглядае ў акно. Госці пытаюцца:

— Што вы там выглядаеце ў такой цемры?

— Я дакладна ведаю, што ў майго суседа сёння таксама былі госці, але чамусьці ў яго вокнах святла ўжо не відаць.



## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ані Бішчук з Кузава Гайнаўскага павету і Ірэны Ражко з Меляшкоў Беластоцкага павету змяшчаем песню

### ANNA — MARIA

Słowa: Krzysztof Dzikowski
Muzyka: Seweryn Krajewski

Smutne oczy, piękne oczy,
smutne usta bez uśmiechu
widzę co dzień ją z daleka,
stoi w oknie aż do zmierzchu
Anna Maria.

Tylko o niej ciągle myślę
i jednego tylko pragnę,
żeby chciała choć z daleka,
choć przez chwilę spojrzeć na mnie.

Anna Maria smutną ma twarz,
Anna Maria wciąż patrzy w dal,
Anna Maria smutną ma twarz,
Anna Maria wciąż patrzy w dal...
Anna Maria.

Jakże chciałbym ujrzeć kiedyś
swe odbicie w smutnych oczach,
jakże chciałbym móc uwierzyć
w to, że kiedyś mnie pokocha.

Anna Maria itd.

Lat minionych, dni minionych
żadne modły już nie cofną,
ten, na kogo ciągle czeka,
już nie przyjdzie pod jej okno.

Anna Maria itd.

# КУРЁЗЫ

## РАЗВОД ПА-ВЕНСКУ

У адным з судоў Вены слухалася справа аб разводзе Гайнца Карэра, рэцыдывіста, вядомага паліцыі як «чэмпіёна ўцёкаў». Карэр адседжваў у гэты час чарговы пяцігадовы тэрмін за махлярства і быў дастаўлен з турмы ў будынак суда ў наручніках. Суддзя не паспеў сказаць і некалькі слоў, як Карэр выхапіў з-за пояса пісталет і загадаў служыцелю Феміды і яго сакратару павярнуцца тварам да сцяны. Затым муж, які разводзіўся, «прымусіў» жонку адкрыць наручнікі, раззброіў двух судзейскіх вахмістраў, прыкаваў іх адзін да аднаго сваімі наручнікамі і знік, бліскуча падтрымаўшы сваю рэпутацыю.

## ЧЫМ СПАКУШАЮЦЬ ДЗЯЎЧАТ

Міністэрства абароны Даніі трапіла ў цяжкае становішча. НАТО патрабуе ад яго паставіць дадаткова тры тысячы салдат, а дацкія юнакі не хочуць апранаць ваенную форму. Нарэшце, выйсце было знойдзена. Міністр абароны зрабіў рэверанс у бок... цудоўнага пола. У армію аб'яўлен набор добраахвотнікаў -дзяўчат ва ўзросце да 25 гадоў. Дзяўчат разлічваюць спакусіць абяцаннем трохмесячнага аплачваемага водпуску па цяжарнасці і родах і салідная пажыццёвай пенсіі пасля дасягнення 45 гадоў.

## УКРАЛІ ДАРОГУ

Чыгуначнае начальства Швецыі вырашыла праверыць стан законсерваванай чыгуначнай лініі на поўдні краіны. Калі на месца прыбылі інспектары, іх чакаў сюрпрыз: ад дарогі не засталося ні рэек, ні стрэлак, ні вагонаў, ні лакаматываў, ні нават шпал. Аказалася, што невядомыя злачынцы, працуючы сярод белага дня на працягу цэлага лета, разабралі дарогу, пагрузілі на аўтамабілі і павезлі.





*Важнае, не з якой нагі ўстаў, а на чыю нагу наступіў пры гэтым.*